# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

№ 9 Жнівень 1937 г. Год II



З працы

## ЗЬМЕСТ:





СКЛАДКІ: 3 зл. 60 гр. на год
1 зл. 80 гр. на паўгода
асобны нумар 40 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:
Вільня. Каралеўская вуліца 3-8
Конто: Rozrachunek 91



Рэдактар-выдавец: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Друк. Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22.

БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ І ЛІТАРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

№ 9 Жнівень 1937 г. Год II

МАКСІМ ТАНК

## СКАЗ ПРА ВЯЛЯ.

*Народная быліна.*

(Заканчэньне).

Над ракою,
ды над берагам высокім
закалыхалася ад ног цяжкіх зямля.
Ой, сышліся госьці тут з палёў шырокіх:
войска Вяля з войскам Князя пагуляць!
І палілася зарой чырвонай брага,
мёд гарачы, хмельны мёд па барадзе.
Хто хлябнуў яго агністага карчагай,
таму згасьне найясьнейшы нават дзень.
Тонуць косы
ды ня ў зелень
шумных траваў, —
на пясок кладуцца людзі на сыры,
як маланкі, зіхацяць ў руках каравых
доўга востраныя вілы, тапары.
А як выйшаў Вяль з чачоткавай дубінай,
замахнуўся, — быццам тысяча вятроў! —
а ударыў — сьледам пасеку пакінуў,
ці граду галоў — расьцьвіўшых качаноў!
Як зайгралі
косы юрачку стальныя,
ўзьнялі коні капытамі крыжачок,
як лявоніха пад сосны баравыя
лапцем шэрым
узьмяцеліла пясок!
Адступаць пачала князева дружына,
ўдаль вячэрнюю палёў, назад,
быццам поясам
парваным, жураўліным,
быццам стадам
разагнаных
курапат...






III.

Толькі бровы дня на ўсходзе залаціцца
над абозам, над вазамі пачалі, —
слугі Князя з дарам князевым прышлі,
з Вялем-волатам, з дружынаю гадзіцца.
Разаслалі паясы яны літыя,
быццам вытканыя з кужалю вясны,
ткані дзіўныя з-за мора залатыя
і шырокія, як Нарач, дываны;
палумiскі, пазалочаныя чары,
быццам з лёду серабранага крыштал,
торбы поўныя аброчныя янтару, —
не дарма, відаць, пот ліла галіта!
Вось адзін пасол падняўся барадаты:
— Памірыцца мы да вас прышлі,
цяпер будзе Князь для вас старэйшым братам, —
ці-ж ня хопіць усім сонца і зямлі!?
Князь прыслаў ўсё гэта Вялю, як гасьцінец,
абяцаў даць вашым жонкам палатна,
а як вернемся, дык выкаціць дружыне
бочкі мёду векавога і віна.

Вяль падняўся,
вочы бліснулі маланкай,
апаліўшы броваў цёмнае крыло:
— Відаць, госьці, вы ня спалі да заранкі,
або вам і Князю розум адняло!
Не пакваплюся на выкуп як найбольшы,
не пайду гасіць закураны вам дым,
не наўчыўся я разьменіваць на грошы,
што пад сэрцам накіпела маладым!
Вы, дружыньнікі, лепш дараў не бярэце,
калі забыліся на крыўду ў курганох,
дык помніце, што будуць вашы дзеці
араць бяду з пракляцьцем на шнурох!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Жар гарачы палынеў у кожным слове,
ды ярчэй, відаць, гарэла серабро,
і янтар на ясным золаце вішнёвіў,
быццам
скрышаны рукой
маланак гром, —
што забылася нат' Вялява дружына,
аб тым болю, што няраз ў грудзёх вірыў,
і згадзіліся пад небам зорна-сінім
разыйсьціся,
апусьціўшы
тапары.

Не згадзіўся толькі Вяль адзін мірыцца.
Дзе змарыўшыся сышліся сьцежкі тры,
ён ўзабраўся
на узгорак,
над крыніцай
і залёг у малачаі, у бары...

Ходзіць лесам Вяль з чачоткавай дубінай.
Да зямлі прыложыць вуха,
мо' чуваць
нешта новае гавораць каляіны,
можа шэпча нешта сьвежая трава...

Год мінуў.
Маўчалі ціхія дарогі.
Толькі недзе за гарамі, на ральлі
нехта з песьняй залатым скрабе нарогам
грудзі чорныя ўраджайныя зямлі.
На другі год чуе, шэрыя бярозы
зашумелі над сялянскай паласой,
змоўкла песьня, — толькі звоняць недзе сьлёзы
на барознах за скрыпучаю сахой.
— Хутка трэба будзе выбрацца ў дарогу, —
думаў лежачы Вяль ў лесе, у бары —

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Звоняць,
звоняць камары
у цёмным лесе,
і аплёў зьвінячай зябрай сосны звон.
Эх, на вочы багатырскія ты, месяц,
лепш ня лі
салодкі
камарыны сон!
Падпаўзла дружына Князя
блізка, ціха.
І застукаў на сырых камлёх тапор
так, каб рана, як прачнецца вецер - ліха,
лёг падсечаны
на Вяля
цёмны бор...
Сьніцца Вялю: пахне шышкамі і мятай...
нехта недзе на цымбалах заіграў...
быццам лес гарыць,
дзяўбуць сасоньнік дзятлы...
быццам Скіба стары ў поясе абняў...
Эх, ня Скіба, але цяглая сасонка
папярок яго дарогаю лягла,
толькі крыкнула спалоханая сойка,
ды лясная зашумела гавыла.

Скочыў Вяль.
Абняў рукамі вецьце.
Не ўцячэш — лес высіцца сьцяной.
Зашумеў мацней зялёны вецер,
наваліўся бор на волата гарой...

Ішлі
ад сонца
песьняры тэй дарогай,
якой вышаў Вяль ў шырокі сьвет.
Іх спаткаў за сошкай Скіба на разлогах.
як зары гарачай распускаўся цьвет.
Прывіталі Скібу між палёў шырокіх:
— Слава табе, сейбіт і зямлі ўладар!
Ці не з нашай вёскі
выляцеў той сокал,
што засевы нашы бараніў ад хмар?
Што-ж, стары, панік ты,
галаву спусьціў ты?...
Яго сэрца крыгі часу не сатруць;
ён у шуме ветру, у калосьсях жыта,
як жывы гавора перазвонам струн...
І на голас песьні
з захаду,
з усходу,
з поўначы сьцюдзёнай,
з дальняга паўдня,
з сохамі крывымі шмат прыйшло народу,
што маглі-б рукамі нат' зямлю падняць.
Глянуў стары Скіба, калі змоўкла рэха.
Як з сухой лучыны у вачох агонь.
На шлях зорны глянуў, на крывыя стрэхі,
і на камяністы
згорблены загон.
— Дзякуем за гэта, што прынесьлі слова,—
кажа стары Скіба песьняром,—
будуць і маланкі, калі зноў сталёвы
чуецца у песьнях навальніцы гром.
Вы далей ідзіце ў сьвет шырокі, госьці!
Нам пара крануцца, нам пара араць,—
калі ўстала песьня, дык пара і косьці
Сына майго Вяля з кургана дастаць!...

І скрыпяць дні ціха
па глухіх дарогах...
Ужо ўнукі Скібы ходзяць па ральлі,
і скрабуць - ўзрываюць залатым нарогам
усё глыбей
барозны
чорныя зямлі.

29.V.37



# З ДАРОГІ.

Даўна ня бачыў сваіх бацькоў, знаёмых, блізкіх, роднай вёскі, у якой правёў дзяцінства. Цягне. Хочацца адведаць. Хоць на кароткі час. Выбраў мамэнт — махнуў.

---

Развіднела. Ні аднэй хмаркі на небе. Так і хочацца прамовіць: —Эх і пагода сягодня будзе! — Цьвёрдымі крокамі мераю не гарадзкія ходнікі і брук, а дарогу між палеткаў роднае вёскі, дакладней— хутароў. Сьвежасьць вясковае раніцы, запах пракосаў, некранутай травы на стойле, ўражаньні ад першых мэнтляў жыта ўліваюцца ў маю грудзь і там унутры іскрыцца, як ранішняя раса на сонцы, штосьці дзяцінна-радаснае, бадзёрае.

Лясок. Мілы, блізкі, знаёмы. Здаецца чалавек расплавіўся-б у ім, зліўся-б з дрэвамі, кусьцікамі, шчэбятам птушак. Або зноў—абняў-бы, сьціснуў-бы моцна-моцна, каб аж косьці-суччо затрашчалі. Столькі радасьці, ўражаньняў, столькі ёсьць сьвежай, як гэта раніца, энэргіі!

Вось і наш хутар. Хоць яшчэ сонца не ўзыйшло, маці ўжо кратаецца на панадворку. Гарачыя прывітаньні.

— А дзе-ж бацька? — пытаюся.

— Зараз прыедзе. Паехаў у лес па мох. Бачыш яшчэ зімою выйшаў увесь падсьціл. Трудная рада — мохам падсьцілаем скаціну. І так хоць лодкай едзь у хляве. Ну чым-жа цябе частаваць. Дальбог нямаш чым: неяк усё выйшла. Хлеб, праўда, ёсьць; некалькі пудоў пазычылі. Сала няма. Куры слаба нясуцца. З каровай таксама толку мала. Прыехаў у саму галіту.

На шчасьце знайшлося два яйкі, купленая, паводле „інформацыі" маці, скварка. Апошняя сьвежасьцю блеснуць не магла. Ня ведаю чаму, можа таму, што я звыкся ў сваім жыцьці з горам, нейкі сьмех браў, гледзячы на матчыны стараньні — „пачаставаць мяне чымсьці лепшым"...

Не кажучы аб бацьках, першае спатканьне надарылася з Грышкай. Слыне хлапец у вёсцы сваёй жартаўлівасьцю. Любяць яго за гэта хлопцы. Сам старэйшы кавалер, рэй водзіць сярод малодшых хлапцоў. Ён у іх як бацька.

— Ну як, Грышка, шмат вясельляў адгулялі?

— Каму цяпер ахвота накладаць хамут на шыю. От, каб хто кожны дзень даваў па бохану сітняка, то можна было-б жаніцца.

— Ды яшчэ сала, хоць худога — дабаўляе бацька. Дагаварваемся з Грышкай вечарам пайсьці дзе-небудзь „у кампанію".

— Хаця можа і ня варта, бо дзе ты каго знойдзеш. Гэта ня то што раней да хутароў: заўсёды на вуліцы поўна, сьпевы, жарты, рогат, шум... Цяпер ня тое, — паважным тонам заўважвае Грышка, і ў яго тоне адчуваецца нотка жалю за тымі лепшымі часамі, калі вёска ня была яшчэ разьбіта на хутары.

— Глянь, як параскіданыя хаты па ўсіх кутках, не раўнуючы кураняты, пакінутыя курадводкай. Або зноў — на гэную сенажаць. Колькі тут было раней шуму, брэнку косаў. Нават і мёду чмялінага было больш, як выйдзе ўся вёска разам на касьбу. А цяпер то там,

то сям чалавек. Адны пакасілі, другія яшчэ ня думаюць. Неяк вяла, паволі ўбіраецца сенажаць. А людзі падзічэлі. Ды што казаці? — махае безнадзейна рукою Грышка.

— А калі дзе сабяруцца, то зноў бяда. Ладзілі мы спэктакль...— падумаўшы цягне далей. Як ведаеш шмат гадоў прайшло з таго часу, калі ў нас спэктаклі расьлі, як грыбы пасьля добрага дажджу. Была бібліятэка і ўсё такое. Вось у гэтым годзе мы напомнілі старае ды пры помачы вучыцеля на Каляды і Вялікдзень скалацілі па спэктаклю.

Распытваюся што і як. З ахвотай апавядае. Спэктаклі ўтраквістычныя. П'ескі — беларуская і польская. Надрукавалі абвесткі. Хацелі надрукаваць пабеларуску, але друкары адмовіліся, тлумачачы, што на гэта мусяць мець спэцыяльны дазвол ад Старосты. Народу сабралася шмат. І з іншых вёсак таксама прыйшлі.

— Аднаго вечару рэпэтыцыя адбывалася не ў школе, а так у хаце. Вучыцель ня меў часу і запэўніў нас, што можам рабіць самы, а ў выпадку чаго можам паклікацца на яго словы. Сказана — зроблена. Але і то. Сьвятлом батарэяк знайшлі нашу асьвету. Селі і запісалі — nielegalne zebranie. Штрафы. Былі ў „Выдзяле сьледчым". Наканец нічога ня выйшла, але цяганіны мелі ўдоваль.

Вечар. Спаць ня хочацца. Доўга сяджу на лаве пры адчыняным акне. Неяк сумна. Хочацца пабачыцца з людзьмі, пагаварыць. Важнае пытаньне ломіць галаву — да каго пайсьці. Пералічваю ўсе магчымасьці.

Пажылы селянін, гадоў 60 хіба стукнула, такі з бародкаю, ставіць копку. Падходжу. Вітаемся. Закурваем. Пытаюся што чуваць.

— А што ў нас?... От, так капаемся заўсёгды ад усходу да заходу сонца ды толькі. Вось у вас у горадзе... Вы газэты хіба чытаеце, а мы рэдка.

Мае надзею, што хутка будзе вайна. Распытваецца пра Гішпанію, Далёкі Усход. Дарэчы сказаць Гішпаніяй горача цікавяцца ўсе сяляне.

Мікіта Саўчык, каторы пабіў рэкорд бадай у цэлай гміне па колькасьці атрыманых пратаколаў за лес, без газэт „адгадвае", хто бярэ верх у Гішпаніі. Людзі сьмяюцца, а ён паважна:

— Я пераканаўся: як прыдзе сэквэстратар, значыць рэспубліканцы адступаюць на ўсіх фронтах, як доўгі час нямаш яго ў вёсцы — туга прыходзіцца паўстанцам.

Так варожыць па сваіх пратаколах Мікіта. Яму, кажа, і газэта непатрэбна.

Паглядзеўшы на чорную, ламаную лінію мэльерацыйных равоў, у іншы бок накіроўвае гутарку стары.

— У гэтым годзе знайшлося некалькі чалавек, падалі просьбу, каб шараваркам праводзіць мэльярацыю. Шмат каму выпала капаць равы на чужым. Колькі было грызьні і калатні. Вазьмеце, напрыклад, Ігната Жуковага. Ён столькі атрымаў поля і балота, блізка, выгадна, а мы яшчэ павінны яму равы капаць. Як-жа ня крыўдна? Не згаджаліся. Але некаторыя, як бачыце, ужо прыступілі; або самыя капаюць, або наймаюць.

Стары бярэцца за граблі. Я адходжу.

У суботу вечарам махнуў я ў вёску. На вуліцы застаў чатырох малодшых хлапцоў. Пры іх стаяў ровэр — „маторызацыя" вёскі. Ра-

дзіліся, як узаўтра пайсьці ўсім у горад і адамсьціць Р. каторы разам з іншымі гарадзкімі жулікамі досыць моцна пабіў Віцю. Раней у нашай вёсцы разбояў ня было. Цяпер часам здараюцца.

Адсутнасьць культурнай разрыўкі робіць сваё.

---

— Нашто вы косіце так зялёны гарох? — яшчэ ідучы зварочваюся да Цімаха, маладога добра знаёмага мужчыны, каторы сеў на сьвежым пракосе закурыць.

— Прыгледзьцеся — самы ўбачыце.

Я ўзяў жменю лёгшай пад касой зелені. На дзіва проста. Гарохавіны, асабліва іх вярхушкі, аж кішаць ад зялёных мошак. На пракосах і па зямлі поўзаюць чорныя чарвячкі падобныя па форме да сьвятаянскіх сьвятлякоў.

— Што гэта за ліха? — пытаюся.

— Мы хадзілі спэцыяльна ў гэтай справе да дырэктара „ральнічай“ школы. Кажа — сібірская язва. Выхад адзін — скасіць. А так змарнуецца. Струкоў ня будзе. Высахне. Відаць засуха пашкодзіла.

Разгаварыліся на гаспадарчыя тэмы. Прапаную выпісаць беларускі гаспадарчы часапіс.

— Што гэта паможа? Практычны гаспадар сам дасьць раду, каб толькі зямлі было больш і ня такія цяжары з боку. А то цяпер усё сабралася разам. Падаткі плаці. За камасацыю плаці. Мэльярацыю або адрабляй, або плаці. Даўгі за перанос і перабудову выплачвай. Трудна зьвязаць канцы з канцамі. Яно на хутары можа і лепш было-б, каб як пакончыць з даўгамі. Вось, вазьмі Івэна, колькі насадзіў ушчэпаў. Глядзі — цераз гадоў 5 які сад будзе. Большасьць гаспадароў хаты пабудавалі лепшыя. Хаця праўда з пашай труднавата. І не хватае і з пастухом бяда. Як на малую гаспадарку і сям'ю — наняць пастушка трудна і самаму пасьвіць немагчыма, бо іншую працу маеш. Не адорвешся ў заработкі.

Я ўважна выслухаў, зацягнуўся махорачным дымам ды ізноў аб гаспадарчым часапісе напамінаю.

— Навука? Вясною хадзіў па полі дырэктар. Паказваў дзе што сеяць і як угнойваць. — „Тут, кажа, звычайнага гною даць добра — жыта, як лес будзе“.

— Я і бяз яго ведаю. Але дзе той гной узяць. Ён купляе, бо мае зашто. Метка яму цяў Хаім, мельнік: „Вы, пане дырэктар, атрымліваеце на школу 30 тысяч і то ледзь пражываеце ў гэтым маёнтку; а я хаця не дырэктар. дайце мне гэны маёнтак, дык яшчэ вам буду выплачваць па 30 тысяч у год“. Мікалаю сказаў дырэктар, што ў яго каля лесу толькі віка ўродзіць, а пшаніца — нат пасеву не выдасьць. А між тым і віка ўрадзіла і булак ды зацеркі будзе мець ня толькі на Вялікдзень.

Хаця яно не пашкодзіла-б мець добрага агранома на вёску— канчае Цімох.

Такое „роскашы“, як аграном, вёска яшчэ ня мае. Затое ёсьць некалькі былых вучняў гімназіі, сэмінарыі, некалькі аканчыўшых сяміаддзялоўку, ёсьць крыху начытанай, як кажуць, абцёртай між людзей моладзі — гэта праваднікі культуры ў вёску.

З адным з іх прышлося пагутарыць. Былы вучань беларускай гімназіі. У малодшых клясах яшчэ вучыўся так - сяк, недаядаючы. І тут

бяда. Крызыс не мінуў гаспадаркі яго бацькі. У дадатак пачалася хутарызацыя. Бацька сказаў: „Далей немагу — аставайся ўдома“! Астаўся. Цяпер жыве, як іншыя сяляне, жыцьцём „ад усходу да заходу“. Скардзіцца, што няма чаго і калі чытаць. Чалавек, кажа, ялавее. Праўда выпісвае некаторыя беларускія часапісы. У тыдзень раз, або два пападае ў рукі, штодзенная газэта, польская, або расейская. І то незаўсёды. Гутарку аб вёсцы зачаў ад спэктакля.

— Шмат было перашкод, беганіны, шмат улажылі працы. Але моладзь акрыляла. Пачаўся рух. . . Хацелі купіць на дэкарацыю картону. На іншы раз таксама прыдаўся-б. Вучыцель аднак незгадзіўся. — „Непатрэба — кажа. — Прыпушчаю, што гэта будзе апошні спэктакль“. Яго дыплёматычнае „прыпушчаю“ гучэла для нас трагічна.

---

Ізноў у горад. Бацька адвозіць на станцыю. У сумерках вечару развітваюся з вёскаю. Думкамі перажоўваю ўражаньні.

З заходу выпаўзае чорная хмара. Маланка ўсё часьцей і ярчэй асьвячае неба і ваколіцу.

— Будзе нешта больш чым звычайны дождж. Гатова ўсе мэнтлі парозварочваць — заўважвае бацька і сьцебае пугай па кані.

**К.**

---

ГАННА НОВІК

## НЕ ТАМУ.

Не таму я стаў пад горкай,
Што спужаўся вышыні;
Не таму у роце горка,
Што праходзяць сумна дні.

Я прыстаў прыгатавацца
Да магчымых няўдач;
Жаль, што марна гіне праца, —
Я-ж яе каваль і ткач.

Сумны дзень далей прагонім
І забудзем, што ён быў!
Хай зьвініць у думах-тонях
Жыцьця новага парыў!

Хай ліецца ў жылах з кроўю
Песьня-думка на абшар, —
А пачуўшы — кажды ўспомніць,
Што ёсьць шчасьце і пясьняр.

9.VIII.37 г.



# ЛЮІ ПАСТЭР.

*(Заканчэньне).*

4.

Сярод няшчасьцяў, якія ністожаць людзей, амаль першае мейсца займаюць заразныя хваробы. Водра, шкарлятына, дыфтэрыт, воспа, сыфіліс, вуглянка, жоўтая трасца, сыпняк, халера, чума, — вось страшныя ворагі чалавека. Мы ўжо не гаварым пра такіх, як сап, праказа, сабачае шаленства.

Але з даўных часоў было заўважана, што людзі звычайна не хварэюць болей, як адзін раз, напрыклад, на шкарлятыну, чуму ці жоўтую трасцу. Посьле Пастэравых досьледаў стала ведамым, чым гэта тлумачыцца. Мікробы хваробы, трапляючы ў арганізм чалавека, пачынаюць пладзіцца і выдзяляюць нешта водкае — атруту, якая ў мэдыцыне называецца *токсінамі*. Арганізм стараецца даць адпор гэтым ворагам і з свайго боку выдзяляе ў крыві *антытоксіны*, інакш кажучы, сам арганізм вырабляе лякарства ад заразы. Калі арганізм моцны, ня вычарпаны голадам, непасільнаю працаю, дрэннымі і негігіенічнымі ўмовамі жыцьця, тады ён лягчэй спраўляецца з ворагамі. Наадварот, калі аслаблены, як гэта бывае пад час голаду, вайны ці стыхійных няшчасьцяў, тады людзі лёгка заражаюцца і масава паміраюць ад разных пошасьцяў, тады, кажуць, пачалася эпідэмія.

Робячы свае досьледы над вуглянкаю, Пастэр не пераставаў думаць аб тым, як знайсьці спосаб, каб праверыць праўду сваей навукі на людзях, як заставіць арганізм чалавека папяраджаць заразныя хваробы. Дзеля сваіх досьледаў ён цяпер выбірае найстрашнейшую і безнадзейную хваробу — *шаленства*, адная думка пра каторую наводзіць жудасьць. Пастэру трэба было высьвятліць прычыну гэтай хваробы, умовы пры якіх яна перадаецца, адным словам прарабіць ад пачатку ўсё тое, што было ўжо зроблена ў іншых выпадках.

Да вывучэньня шаленства Пастэр прыступіў у 1880 годзе. Цяпер ён ужо быў ведамым вучоным, меў сваю вялізарную лябараторыю. У садзе, які быў падараваны Пастэру Гарадзкім Саветам гор. Парыжу, ён будуе стайні для коней, хворых сапам, хлявы для авец, хворых на вуглянку, псярні для шалёных сабак. Адначасна не пакідае і сваей лябараторыі, якая мясьцілася ў падвалах яго дома на вул. Ульм Там былі шалёныя сабакі, куры з куранятамі, пятухі, кролікі, марскія свінкі. Усе яны прызначаны для будучых досьледаў, усім будзе прышчэплена зараза, усе яны асуджаны на сьмерць. Апрача таго Пастэр што дня даставаў пасылкі з усёй Францыі з кашамі здохлых курэй, часамі тушу сьвіньні, згінуўшай ад краснухі, чорную блявоціну ў бутэльках з далёкіх зямель, — усё гэта таксама прысылалася для досьледаў, для вывучэньня мікробаў. Усюды на рабочых сталах былі толькі трубачкі, напоўненыя крывёю; у шафах, якія агрэваюцца, пастаўлены бутэлечкі з культурамі вельмі заразных мікробаў.

Але на самым пачатку новых досьледаў у Пастэра высьлізнула з рук і абарвалася тая пуцяводная нітка, якая вяла яго па цёмных лябірынтах страшных цудаў прыроды. Мікроба шаленства Пастэр не знайшоў, здаецца ён і да гэтага часу яшчэ ня выкрыты. Але над

такою перашкодаю Пастэр не затрымаўся. Ён упарта робіць свае досьледы.

Першы выпадак шаленства Пастэр назіраў на пяцігадовым дзіцяці. Хвароба пачалася праз месяц пасьля таго, як дзіця было пакусана за твар. Страшная смага мучыла яго і разам з тым яно жудасна баялася вады. Калі яму паднясьлі насок накрытага чайніка, дзіцё раптам адкінулася назад у парыве такога шаленства, што ўдарыла сястру, і курч здушыў яго за горла. Апрача таго яно нязвычайна баялася паветра: адная пятка неяк высунулася з пад коўдры, і дохтар, якога дзіцё ня бачыла, памаленьку дзьмухнуў на яе. Зноў раптоўна пачаўся страшны прыпадак хваробы, спазма горла, пакуль пена ад сьліны не задушыла яго. Праз чатыры гадзіны гэтую сьліну, разбавіўшы вадою, прышчапілі двум кролікам. Тыя здохлі меней як праз 36 гадзін. Сьліна ад гэтых кролікаў прышчэпленая другім таксама выклікала сьмерць. Некаторыя дахтары пасьпяшылі зрабіць з гэтага вывады, што шаленства перадалася кролікам ад сьліны чалавека.

Пастэр падыходзіў да гэтага асьцярожна. Ён ня быў дохтарам, яго цікавілі болей досьледы, як клінічныя сымптомы хваробы. Ён пачаў вывучаць тканкі і кроў такіх кролікаў пад мікраскопам і выкрыў новага мікроба, які спатыкаецца ў сьліні дзяцей, памёршых такжа ад іншых хваробаў, і нават у здаровага чалавека. Апрача таго, агульна ведама, што шаленства ў такі кароткі час не магло пачацца.

Тады Пастэр прышчапіў *за скуру* сабакам і кролікам добра прыгатаваныя разныя часткі мазгоў шалёнае сабакі. Кролікі і сабакі захварэлі (як часта гавораць у народзе „скруціліся“) у такі пэрыяд часу, як-бы яны былі звычайна пакусаны. Але Пастэру трэба было прысьпяшыць хваробу. І вось ён з вучнямі прышчапіў кусочак мазгоў шалёнае сабакі *да мазгоў* здаровае. Праз некалькі дзён пачалася хвароба: сабака перастала есьці, пачала жаласна і моцна скавытаць, глытаць салому, потым зрабілася буйнай і, наканец, спараліжаваная здохла. Досьледы паўтараліся ў вялікай колькасьці, і кожны раз сабакі здыхалі недзе на 20-ты дзень. Такім чынам быў знойдзены спосаб укараціць скрыты пэрыяд заразы. Хутка былі атрыманы новыя вынікі, якія яшчэ больш павялічвалі важнасьць гэтых досьледаў: было даведзена, што ня толькі галаўныя мазгі маюць атруту шаленства, але таксама і сьпінныя, нават нэрвы ад самых цэнтраў да пэрыфэрыі (паверхня цела) бываюць заражаны ёю. Значыць, калі ёсьць мікроб шаленства, то ён выбірае сабе для разьвіцьця ўсе мазгі і нэрвы. Найгоршы будзе такі ўкус, які зроблены каля нейкага нэрву, напрыклад за твар, як мейсца блізкае да мазгоў.

Кусочак такой *заразнай мазгавой тканкі,* разбаўленай булёнам і ўведзенай шпрыцам у арганізм, выклікае заражэньне. Многа досьледаў было зроблена пакуль быў знойдзены спосаб аслабіць заразу. Аказалася што мазгі шалёнае жывёлы, падсушаныя на сухім паветры, трацяць сваю заразную сілу. Такая аслабленая зараза, прышчэпленая сабакам, рабіла іх зусім нячулымі да сільнейшае атруты і нават да ўкусаў шалёных сабак. Але-ж ці можна рабіць такое шчапленьне заразы людзям і чакаць вынікаў? Выпадкаў быць пакусанымі здараецца мала, а зноў-жа прышчапіць сабе заразу, а потым даць пакусаць сябе няведама ці хапіла-б у каго на гэта самаахвярнасьці. Пастэр і ў гэтым выпадку знайшоў новы, сьмелы і ўзапраўды геніяльны спо-

саб ратаваць жывёлу і чалавека пасьля таго нават, як зараза ўжо ў арганізме.

Калі прышчапіць частку мозгу шалёнае сабакі да мозгу кроліка, апошні здыхае на 18 дзень ад ціхага або паралiжаванага шаленства. Паўтараючы досьледы каля сотні разоў ужо толькі над кролікамі, Пастэр давёў патайны (інкубацыйны) перыяд заразы да 7 дзён. Ад гэтага часу зараза ўжо становіцца небяспечнаю толькі для кролікаў. Мазгі такога кроліка лёгка падсушаныя і прышчэпляныя пад скуру жывёле абараняюць яе ад вынікаў заразы. Выясьніць гэта можна натта проста: неаслабленая зараза шаленства посьле ўкусу пасуваецца нэрвовай дарогай да мазгоў, і калі дойдзе выклікае няўхільную сьмерць; зараза аслабленая ў сваей сіле арганізмам кроліка і ўспрыснутая за скуру, распускаецца ў крыві і дае ёй адпорнасьць, якая палягае на тым, што кроў набірае сілы, ністожыць заразу, запыняе ёй дарогу да мазгоў галавы і сьпіны. Трэба толькі, каб шчапленьне пачалося тады, калі зараза яшчэ не дасталася да мазгоў.

Аставалася толькі праверыць на чалавеку гэты геніяльны спосаб лячыць страшную хваробу. Такі выпадак хутка здарыўся.

9 ці гадовы хлопчык Мейстэр ішоў да школы. Па дарозе на яго напаў шалёны сабака. Хлопчык упаў і закрыў тварык рукамі. Сабака пачаў кусаць яго і, набіраючысь усё большага шалу, качаць па зямлі, аж пакуль работнік, які надыйшоў, не забіў сабаку. Дохтар прыпаліў раны карбоўкай і парадзіў завязьці хлопчыка ў Парыж да нейкага пана, які завецца Пастэрам. — Ён толькі адзін можа даць добрую раду, — сказаў дохтар.

Пастэр аднак баяўся сам пачынаць праверку свайго новага спосабу на дзіцяці і паклікаў на нараду лепшых прафэсароў мэдычнага факультэту. Яны агледзілі 14 ранаў хлопчыка і згодна парадзілі Пастэру спрабаваць новы спосаб, тым больш што хлопчык амаль асуджаны на сьмерць.

Усё лячэньне зводзілася да таго, што хлопчыку прышчаплялі тыя прэпараты, якія Пастэр лічыў патрэбнымі. Лячэньне блізілася да канца. Хлопчыку прышчаплялі ўсё сільнейшую заразу. Пастэр моцна непакоіўся. Сьветлыя надзеі мяняліся цяжкімі настроямі. Вялікі вучоны, чакаючы вынікаў, ня спаў цэлыя ночы. Посьле таго, як было зроблена ўжо 13-е шчапленьне, прыяцелі ўгаварылі Пастэра выехаць на адпачынак. Але і там Пастэр толькі думаў пра хлопчыка, які, здавалася яму, недзе памірае ў прыпадках шалу. Вось якою цаною даецца слава!

Прафэсар Граншэ, пакліканы Пастэрам, першы раз прышчапіў Мейстэру аслабленую заразу 4 ліпеня 1885 году, а 26 кастрычніка таго-ж году, калі мінулі ўсе срокі магчымага патайнога (інкубацыйнага) стану хваробы, Пастэр ў Акадэміі Навук зрабіў даклад, што лячэньне ад сабачага шаленства ўжо факт дакананы. Уздым радасьці, што навука перамагла самую страшную хваробу, пранёсься ва ўсе канцы сьвету.

Пасьля маленькага Мейстэра зьявіўся да Пастэра 15 ці гадовы пастух, праз шэсьць дзён посьле таго, як быў пакусаны шалёным сабакай. Пастэр занепакоіўся, але разважыў так: гэтая хвароба ў чалавека пачынаецца праз 4—6 тыдняў, то яшчэ магчыма хопіць часу зрабіць шчапленьне. Пастэр сваімі досьледамі над пастухом зацікавіў прэсу і нават вуліцу Парыжу, але з іншага боку: усіх дзівіла адвага хлапца. Ён пас сваё стада і ўгледзіў, што шалёны сабака

пабег да дзяцей, якія бавіліся на лугу. Пастух схапіў пугу і кінуўся да сабакі. Дзеці ўратаваліся, а сабака схапіў пастуха за левую руку, і тады пачалася страшная барацьба. Праваю рукою хлапец стараўся звольніць сваю левую руку, якую моцна трымаў сабака сваімі ікламы. Пакаціўшы сабаку на зямлю, адважны пастух неяк зьвязаў яго пашчэнкі рамнём ад свае пугі. А потым, зьняўшы з нагі дзеравяны бот, забіў. І гэты хлапец таксама быў выратаваны Пастэрам. Посьле ён астаўся працаваць у Пастэраўскім Інстытуце, як работнік.

Увесь вучоны сьвет зьвярнуў увагу на Пастэраву лябараторыю пры вуліцы Ульм. Адусюль ехалі пакусаныя. І вось прывязьлі 10-ці гадовую дзяўчынку. Яе пакусаў шалёны сабака 37 дзён таму назад. Пастэр адразу сказаў, што выратаваць няма ніякай надзеі. Становішча было цяжкае: у выпадку сьмерці падымуцца нараканьні на мэтад лячэньня. Многа людзей загіне таму, што ім адрадзяць звярочвацца ў лябараторыю. Але ў суседнім пакоі сядзелі бацькі дзяўчынкі, прыбітыя цяжкім горам. Пачуцьце гуманнасьці перамагло: Пастэр пачаў спробы ратаваць дзіцё.

Праз некалькі дзён лячэньне было скончана. Пачалі нават думаць, што дзяўчынка выратавана, аж раптам пачаліся першыя сымптомы хваробы: яна адпіхала ўсякае піцьцё, не магла гаварыць, аднак праз нейкі час супакоілася. Здавалася, што ідзе змаганьне паміж шаленствам і шчапленьнем, але праз 8 гадзін прыпадкі пачаліся з новай сілай: зьявілася ікаўка, галюцынацыі. Бедная дзяўчынка скардзілася, што яна чуе, як льлецца вада па целу. Часам не пазнавала бацькі, клікала Пастэра, якога брала за руку, прасіла пабыць з ёю, бо яна баіцца, калі яго няма. Словы з трудам выходзілі з горла, страшная сьмерць закрывала вялікія чорныя вочы. На другі дзень памёрла. У прэсе паднялася бура, як гэта было прадбачана Пастэрам. Яго зрабілі шарлатанам, нават забойцам дзяўчынкі. Некаторыя хворыя пад уражаньнем жорсткай прэсавай кампаніі ўхіляліся ад лячэньня. Але ў гэтым часе прыехала група дзяцей з Амэрыкі, якіх Пастэр выратаваў ад сьмерці. Зноў пацягнуліся хворыя з усіх канцоў сьвету. Ехалі па 15, 20 і нават па 40 асобаў адразу. Усіх спатыкаў Пастэр. А дзеля таго, што гэта былі пераважна бедныя людзі, ён даваў усім прытулак. Усе суседнія готэлі былі зайняты для гасьцей лябараторыі. Тут былі французы ўсіх клясаў, маленькія ангельцы, італьянскія сяляне, іспанцы, арабы ў сваіх бурнусах, — і хто толькі не праходзіў праз Пастэраў кабінет!

У сакавіку м-цы 1886 году прыехалі ў Парыж 19 сялян беларусаў з Смаленшчыны. Іх пакусаў шалёны воўк. Укус ваўка самы страшны; ён робіць многа ранаў і глыбака кусае. Рэдкая істота астаецца жывою посьле ўкусаў такога ваўка.

З ліку 19 беларусаў Пастэр вылячыў 16, трое памёрла. Але кожны з гэтых трох меў на галаве вялізарныя раны. Магчыма й іх Пастэр выратаваў-бы, калі-б яны зьвярнуліся раней, а то прыехалі праз 15 дзён з такімі страшнымі сьлядамі калецтва. Калі ўскрывалі іхнія трупы, то ў аднаго з гэтых няшчасных знайшлі ў чэрапе зламаны воўчы зуб.

Шаснаццаць нашых беларусаў пераступалі апошні раз парог лябараторыі з рэлігійным пачуцьцём да гэтае навуковае сьвятыні. Прайшлі яны сярод тых, што чакалі паправы, і здавалася былі ўяўленьнем удзячнасьці народаў геніяльнаму вучонаму.

5.

Усё жыцьцё сваё працаваў Пастэр для дабра чалавецтва. Сваімі досьледамі ён умеў выпытаць ад прыроды яе тайны. Гэтыя тайны, як найвялікшыя скарбы, аддаваў людзям. Выразам агульнага захапленьня да яго працаў была міжнародная падпіска на будову лябараторыі — знанага Пастэраўскага Інстытуту, супрацоўнікі якога, як і сам закладчык, даюць прыклады ахвярнасьці і безкарыснага служэньня чалавеку; іх можна бачыць усюды, дзе ёсьць небясьпека: у Кітаі яны змагаюцца з чумою, на Мадагаскары — з трасцаю, у Эгіпце — з халераю. А колькі людзей уратавала карыстаньне Пастэравою навукаю ў хірургіі й іншых галінах мэдыцыны. Мікробы, трапляючы ў рану, выклікаюць заражэньне крыві і сьмерць. Да Пастэра людзі ня ведалі прычыны гэтага. Пастэр навучыў, як трэба нішчыць гэных нябачаных ворагаў, якія мільёнамі асядаюць на ўсякую сьвежую рану і заражаюць чалавека. Сорак сталецьцяў практычнай мэдыцыны не далі чалавецтву таго, што далі сорак гадоў Пастэравай тэорыі. Хутка пасьле перамогі над шаленствам, Пастэраў супрацоўнік д-р Ру выкрыў *токсін* дыфтэрыту (1888 г.), а праз два гады (у 1890 г.) нямецкі бактэрыёлёг Бэрынг выкрыў *антытоксін* гэтае хваробы. За гэтымі пасьпехамі тэорыі пачаліся вялізарныя пасьпехі практыкі. Пры заражэньні шаленствам яшчэ можна было пасылаць на перадагонку атрутным мікробам культуру таго-ж самага мікроба меней атрутнага, які хутчэй разьвіваецца і змушае арганізм да выдзяленьня *антытоксінаў*. Але-ж мікроб дыфтэрыту не чакае, — ён іншы раз праз некалькі гадзін выклікае сьмерць.

Мы ведаем цяпер, што ад гэтае хваробы трэба даваць „уколы", і толькі такім спосабам можна ратаваць чалавека. Але ня ўсе ведаюць, што гэтыя „уколы" ёсьць антытоксіны, загадзя прыгатаваныя ў крыві каня, якому былі прышчэплены аслабленыя мікробы дыфтэрыту.

Вось яшчэ адна бліскучая перамога — і дыфтэрыт падпарадкаваўся мэтаду тых, хто разьвіваў далей Пастэравы ідэі.

Сам Пастэр нязвычайна многа і ўпорна працаваў. За некалькімі радкамі ў журнале, дзе падаваліся весткі аб ягоных навуковых адкрыцьцях, хаваліся сотні і тысячы досьледаў. У часы Пастэра француская шляхта з пагардаю глядзела на навуку, сьмяялася над вучонымі, якіх прадстаўляла запэцканымі альгэбраічнымі знакамі і чарніламі. Аб гэтым гаварылася, калі прымалі Пастэра ў лік акадэмікаў Францускай Акадэміі Навук. — „Як добра — усклікнуў Рэнан, — што вас не затрымала гэтая дваранская пагарда да навукі. Прырода сама не арыстакратка; яна вымагае, каб працавалі; яна любіць мазольныя рукі і выдае свае тайны толькі таму, у каго чало пакрыта маршчынамі".

Пастэру прыходзілася змагацца за свае ідэі з рознымі праціўнікамі. Вось, напрыклад, з якою пагардаю нямецкі бактэрыёлёг гаварыў аб ягоных процізаразных шчапленьнях: „Трудна ім паверыць, бо гэта было-бы надта ўжо добра"! Апрача таго, сталая варожасьць некаторых калег па акадэміі блага ўплывала на яго здароўе, і без таго падарванае цяжкаю працаю і бязсоннымі начамі.

Пасьля сьмерці Пастэра ў 1895 годзе на яго хаўтуры прыехалі ў Парыж дэлегацыі з усіх старон сьвету. Народы аплакалі сьмерць вялікага вучонага, вялікага прыяцеля, які яшчэ за жыцьця свайго меў такі ўплыў на практычныя стораны дзейнасьці людзей, якога ня

меў ні адзін чалавек у гісторыі цывілізацыі. Яго працы выклікалі пераварот у самых старажытных галінах людзкай культуры: ў тэхналёгіі, земляробстве і мэдыцыне. Адзін з вучняў яго трафна заўважыў, што ў гісторыі цывілізацыі, пасьле таго, як першабытны чалавек перастаў баяцца ляснога зьвера, ня было болей рашучага шагу, як той, каторы зрабіў Пастэр, навучыўшы бароцца з яшчэ болей небяспечнымі, усюды існуючымі мікробамі.

**Р. Шырма**

---

АНАТОЛЬ ІВЭРС

## ПАСЬЛЯ НОЧЫ.

Разьлілі сасоньнікі
Медзь ў бары сасновую,
Зару аполонікам
П'юць кусты альховыя.

На узгорках раніцай
Дзень гарыць узорамі,
Ноч яшчэ туманіцца
На палёх разорамі.

Над прасторам падае
Серабро зьвінячае —
Жаўранкі грамадаю
Раніцу адзначылі.

Дзе блудзілі ясныя
Зоры між чаротамі,
Там зьмяшаліся пасмамі
Чырвань з пазалотаю;

Дзе ў густых аселіцах
Ноч званіла путамі,—
Сёньня пухам сьцелюцца
Ветры непадкутыя...

Ў вёсцы дым кудзеліўся
Позна - позна — позьненька...
— Дзе лісты падзеліся?! —
Плакала бярозанька.

---

## МО' ЗАЗЬЗЯЮЦЬ А ПОЎНАЧЫ ЗОРЫ.

Мо' зазьзяюць а поўначы зоры
І сплятуць над краінай вянок —
Я пайду па палёх, па разорах
Раскідаць залатое зярно.

Сонца нам не сьвяціла, як людзям,—
Ў завірухах кавалі свой лёс.
Ды аб волі прыдушаным грудзям
Нашаптала на межах быльлё.

Нашай долі жыцьцё не асьвежыць
Ў шуме лісьця таполяў і ліп —
Той разьвее туман ў пабярэжжы,
Хто з касою пайдзе на палі...

Курганамі прыціхшых ваколіц
Не закласьці ніколі, о не! —
З пад кургану з рунеючым болем
Будуць кветкі гарэць, чырванець...



# З мінуўшчыны беларускага руху.

*(Успаміны).*

III *).

Прайшло мусіць больш месяца пакуль наладзілась друкарня ў Менску. Трэ было легалізавацца, бо на пачатку, як відаць із сказанага вышэй аб адносінах гаспадароў, кожын з суседзяў глядзеў падазрона на сьвежага чалавека, асабліва ў той час, калі рэвалюцыйны рух яшчэ не заглох, ня гледзючы на суровыя рэпрэсіі з боку ўраду.

Трэба было заказаць шафку, касу для шрыфту, самы шрыфт, шкляную тафлю пад набор заціснуты ў раме з рэльсамі, па якіх хадзіў вал, і іншую драбніцу.

Друкарня яшчэ з таго часу, калі пастаўлена была як мэта, атрымала назоў „аганька“. Пазьней гэты назоў прыклеіўся да мяне.

Друкарня хаця-ж арганізавалася марудна, але трывала досі доўга, бо да жніўня 1907 году — і то не засыпалася, а была самахоць зліквідаваная. У працягу гэтага часу засыпалася ў Менску пяць ці шэсьць друкарняў іншых партыяў.

Прадукцыйнасьць друкарні ў Менску была далёка меншая за Віленскую тым балей, што працаваў я адзін: максімальная колькасьць адбітак за дзень была шт. 400. — Аднак пры тагачасным тэмпе працы нашае арганізацыі — гэта было дастаткова. Я меў магчымасьць нават адбіць пару тысячаў экзэмпляраў „Выборгскай адозвы“ паслоў Дзяржаўнай (Государственной) Думы. Раз ці два я друкаваў адозвы для расейскіх эсэраў.

У часе заснаваньня друкарні ў Менску ў Беларускай Соцыялістычнай Грамадзе ўтварыўся адзін Цэнтральны Камітэт і два Краёвых Камітэты. — Першы, з цэнтрам у Вільні і Другі — у Менску.

Праграма Грамады была мешанінай прынцыпаў тагачасных расейскіх соцыял-дэмакратаў (эсдэкаў) і соцыялістаў-рэволюцыянэраў (эсэраў), дапушчаючы між іншым тэрор і экспропрыяцыі. Напрамак Першага Краёвага Комітэту быў бліжэйшы да эсдэкаў, другога-ж, у Менску — да эсэраў, з якімі быў бліжэйшы контакт.

Хутка посьле замаху Пуліхава на менскага губэрнатара Курлова Луцкевічы пераехалі ў Вільню, хаваючыся ад паліцыі; там працаваў і Уласаў, у Менску-ж, апроч памянёных — Віктара Зелезея і Земэнцкага, які хутка і выехаў кудысьці з Менску, больш актыўную ролю з мейсцовых людзей адыгрывалі: адвакат Антон Шабуня (Фама), Яноўская (Параска) дачка дохтара, Скандракоў б. афіцэр, за якога пазьней выйшла замуж Яноўская, Станіслаў Кукель (Апанас), Кастусь Костровіцкі, паэт, колькі вершаў рэволюцыйных якога я надрукаваў, малодшы брат Віктара Зелезея (імя не прыпомню), слесар, фабрычны работнік, які пазьней быў засуджаны разам з Віктарам на ссылку ў Сыбір за перахоў аружжа, малодшы брат Костровіцкага, Міхась Кравецкі (?), Гула, селянін, пасаджаны ў турму за агітацыю на вёсцы, Уладзімер Самойло (Віс), дачка праваслаўнага сьвяшчэнніка, прозьвішча якой не памятаю, і шмат іншых сябраў і сымпатыкаў,

---

*) У папярэднім нумары праз друкарскія памылкі прозьвішча Браніслава Земэнцкага — надрукавана Семэнцкі, а Зелезея — Селезей.

прозьвішчаў якіх я таксама не прыпомню. У Менск-жа пераехаў і Бурбіс, праца якога была вельмі актыўная, як сярод работнікаў у Менску, так і на вёсцы.

У самым Менску па сваіх уплывах сярод работнікаў Грамада займала другое мейсца — найбольшыя ўплывы ў Менску, як у іншых гарадох і мястэчках меў Бунд. Найбольш працаваў у профэсыянальным саюзе шаўцоў — Бурбіс. Да Грамады далучыўся нават жыдоўскі профэсіянальны саюз цырулікаў (парыкмахэраў).

На вёсцы-ж уплывы Грамады былі амаль выключныя. Улетку 1906 годзе пад кіраўніцтвам Грамады ў Меншчыне прайшла забастоўка селянска-гаспадарскіх работнікаў, якая закончылася іхняй перамогай. Цікава адцеміць, што шмат дзе батракі і сяляне працаўшыя ў маёнтках на лістоўкі Грамады, у якіх зьмяшчаліся апрацаваныя нормы платы за працу, глядзелі як на загады, якім трэба падпарадкавацца. Не гледзячы на тэрор, які тасаваў тады ўрад (Столыпінскія галстухі) — аўторытэт рэволюцыйных партыяў стаяў тады яшчэ досі высока.

Пад маей кватэрай унізе месьцілася „чайная“, у акой госьцям давалі і гарэлку. Каб захаваць добрыя адносіны з суседзямі і паказаць, што з нічым не хаваюся, — я згадзіўся на просьбу гаспадара чайнай, жыда, трымаць у сябе запас гарэлкі.

У маей кватэры з вялікшага пакою, былі паасобныя дзьверы ў два другіх пакойчыка: адзін быў для мяне спальняй і адначасна працоўняй з плянамі і крэсьлярскімі прыладамі на шафцы, фактычна друкарняй. з друкарскімі прыладамі, якія знаходзіліся ў шафцы, другі пакойчык без вокан і быў складам для гарэлкі.

Адзін такі раз ён заглянуў у друкарню, калі я складаў набор для друку. Можа ён і зразумеў якой работай я займаўся, але магчыма, што баяўся выкрыць друкарню, каб не сьцягнуць на сябе помсту з боку рэволюцыйнай партыі, бо з сілай рэволюцыйных партыяў, як я казаў, тады яшчэ лічыліся, тым балей, што ў той час рэволюцыйныя партыі тасавалі тэрор. А можа і быў ён сымпатык рэволюцыйнага руху.

Аднойчы адведаў мяне і паліцэйскі прыстаў. Каля гадзіны 11-ай ў начы, лежачы ў пасьцелі, я пачуў на вонкавай дрэўлянай лесьвіцы, якая вяла з панадворку на другі паверх, дзе месьцілася мая кватэра, цяжкія крокі некалькіх чалавек, Гэта госьці да мяне, падумаў я. Крокі міма дзьвярэй маіх прайшлі ў канец калідора з уваходам у кватэру суседа, меўшага шавецкую майстэрню. Аднак праз колькі мінут пачуўся стук і ў мае дзьверы. Я падняўся з пасьцелі і не апранаючыся адчыніў дзьверы. Увайшоў паліцэйскі афіцер, як аказалася, прыстаў. Ён задаў пытаньні, хто я, чым займаюся, дзе працую. Я адказаў на гэтыя пытаньні, што празываюся Еленскій, Іван Карловіч (згодна са сваім фальшывым паспартам), па прафэсіі тэхнік, займаюся крэсьлярскімі работамі ў начальніка чыгуначнай дыстанцыі — назваў прозьвішча інжынера, якога ніколі не бачыў, але даведаўся з самага пачатку. Адказы маі відаць здаволілі пристава і ён выйшаў.

На другі дзень я даведаўся, што паліцыя мейсцовая па даручэньню віленскай, шукала шавецкага чэлядніка, які ў сваю бытнасьць ў Вільні забіў, ці акалечыў чалавека.

Былі яшчэ два выпадкі, калі можна было думаць, што паліцыя цікавіцца маей асобай. Здарыліся яны ўжо ўлетку 1907 году.

Аднойчы, варочаючыся да хаты ўдзень, я застаў на плашчадцы лесьвіцы, што вяла ў маю кватэру паліцэйскага, які хутка зьнік пасьля таго, як я увайшоў да сябе. Тлумачыў сабе я гэта тым, што зьмяніў капялюш на шапку.

У другім выпадку да мяне папрасіўся на начлег стары газэтчык, які часта праседжваў у чайнай. Раніцай, каля гадзіны 4-ай ён падняўся з пасьцелі і падыйшоў да шафкі, на якой лежала крэсьлярская дошка. Я спаў чутка і ўбачыўшы гэта запытаўся, што яму трэба. Ён адказаў, што хацеў паглядзець, каторая гадзіна. Ці праўду ён сказаў — не ведаю дагэтуль. Аднак, пасьля гэтых здарэньняў друкарня існавала яшчэ пару месяцаў і была зьліквідавана намі самахоць, друкарскія-ж прылады схаваны.

У першыя часы праца кіпела. Аднак Сталыпінскі тэрор і рэакцыя ў грамадзянстве рабілі сваё. Па ўсей Расеі рэволюцыйны рух пайшоў на ўбыль. Таксама было і ў Менску. Бурбіс папаў у турму, арганізаваўшы масавы разгром сялянамі казённай „монополькі" — крамы прадажы гарэлкі. Актыўныя працаўнікі ступянёва адыходзілі ад працы.

Дайшло да таго, што першамайскія адозвы ў 1907 годзе на пярэдадні першага мая прыйшлося расклейваць з маім удзелам, што было поўным нарушэньнем конспірацыі друкарні. Начной парой, каля гадзіны 10—11 рабілі мы гэта ў трох з Зелезеем і дачкой сьвяшчэньніка, аб якой я казаў вышэй, у больш глухім районе аднэй з фабрык. Адзін меў адозвы, другі бляшанку з клеем пад палой а трэцьці вартаваў, каб хто не надыйшоў знячэўку.

Таксама спынілася помач з боку сымпатыкаў руху і зьявілася нястача матар'яльных сродкаў. Гэта накіравала на думку шукаць сродкаў шляхам экспропрыяцыі. Грамада прыняла ўдзел з нейкай анархістычнай групай у нападзе на зборшчыка казенных крам прадажы гарэлкі. Імпрэза гэта скончылася адносна памысна для абодвых бакоў — як для зборшчыка, які не пацярпеў асабіста, так для ўчасьнікаў нападу і арганізацыі, бо адзін з нашых сябраў, ранены ў калена, выздаравеў і ніхто з учасьнікаў нападу не быў выкрыты. Больш падрабязна аб гэтым пазьней, тут адзначу толькі, што матар'яльна гэта дало мала — пасьля падзелу здабычы на нашу долю прышлося нешта каля трохсот рублёў.

У канцы адзін з нашых, бадай найболей рэволюцыйна настроеных сябраў, Віктар Зелезей унёс прапанову ў Камітэт закончыць працу арганізацыі, фактычна згінуць з гонарам, тэрорыстычным актам: умоўленай парой найбольшага вулічнага руху ў нядзелю ўсім сябрам Камітэту зрабіць рэвольвэрныя замахі на „гарадавых" — паліцэйскіх, спаўняючых дазор на скрыжаванньнях вуліц.

Здзейсьніць гэта, апроч самога Зелезея здольны былі хіба толькі Міхась Кравецкі, ды можа Шабуня і малодшы брат Зелезея, калі толькі не быў яшчэ арыштаваны.

Прапанова гэтая была адкінута, але ліквідаваць працу прыйшлося. Друкарню зьліквідавалі ў канцы ліпеня, ці ў жніўні 1907 году, і я выехаў з Менску.

Зелезей дамагаўся, каб Грамада, калі не працуе, зачынілася фармальна. Гэтае зачыненьне і адбылася, як я чуў, на адумысным зьезьдзе ў Менску позьняй восеньню таго-ж 1907 году.

**Аганёк.**

(Далей будзе).

# На парозе школьнага году.

Горад ажывае. Летнія вакацыі скончыліся, і школьная моладзь сьвежая посьле адпачынку і фізычнае працы на вёсцы, з бадзёрымі настроямі і радасьцю высыпае на вуліцы з кожнага поезда, які прыходзіць у Вільню. Але сярод гэтай маладой масы людзкае вока можа бачыць ня толькі вясёлыя настрої: на сваіх вясковых клумках сядзяць клапатліва-задумёныя дзеці, якія таксама прыехалі ў Вільню шукаць асьветы. Сядзяць цэлымі гадзінамі і на станцыі, і каля падваротні трэцяга нумару на Дамініканскай вуліцы і ў Бернардынскім садзе. Гэта беларускія дзеці, чакаюць на вырашэньне свайго шчасьця, яны шукаюць роднай школы. На жаль гэтая апошняя беларуская сярэдняя школа, атрымаўшая новую сядзібу, ня можа зьмясьціць усіх, нават ня можа належна заапекавацца імі на час экзаменаў, бо ня мае свайго інтэрнату. Школа, якая носіць яшчэ сваё роднае беларускае імя, вабіць да сябе. Аб гэтым сьведчыць той вялікі наплыў кандыдатаў, якога ня бачыла яшчэ Віленская Беларуская Гімназія. Вясною гэтага году здало экзамены ў І-ю клясу *трыццаць* дзяўчат і хлопцоў. На пазасталыя *дзесяць* вакансіяў перад пачаткам школьнага году ў канцы жніўня здавала ўжо аж 50 кандыдатак і кандыдатаў. Пры нармальных умовах у такіх выпадках школа дастае права на арганізацыю роўналежнае клясы, а тут ня можна будзе павялічыць лік вучняў у І-й клясе нават да 50 чалавек, бо Пэдагагічны Рэгулямін стаіць на перашкодзе. У другой класе зусім няма вольных мейсц — там поўны камплект 46 асобаў, а ў 3-й клясе на адно вольнае мейсца здаюць экзамены чатыры кандыдаты.

Натуральна пэдагагічныя прынцыпы абавязваюць усіх, хто апякуецца ўзгадаваньнем моладзі. Чаму іменна *беларускую гімназію спатрэбілася высяліць з адпаведнага памешканьня ў неадпаведнае* у той час, калі не перанесена з таго самага будынку, напрыклад, Духоўная Сэмінарыя, якая мае толькі 3 клясы. Беларуская Гімназія фактычна распачынала 20-год існаваньня ў сваёй сядзібе пры Вострабрамскай вуліцы, мела ў сваім карыстаньні *14 адпаведных пакояў*, а на новым мейсцы атрымала толькі *12 неадпаведных і напалавіну меншых.*

Прылады і мэбэль фізычнага кабінету ледве пастаўлены ў цесным пакоі. Зусім неадпаведнае мейсца для прыродазнаўчага кабінету і няма гімнастычнай салі. Канцэлярыя гімназіі месьціцца ў цесным закануры каля самай уборнай. Клясы Гімназіі будуць параскіданы на 1-м і аж 3-м паверху тады, калі ўвесь другі паверх аддany пад *прыватнае памешканьне* дырэктару польскай гімназіі. Дабро школы, выгады моладзі і цэлай пэдагагічнай корпарацыі пастаўлены ў залежнасьць ад выгад адзінкі. Вучні і прафэсары змушаны будуць мерыць халодныя сходы, абмінаючы прыватную кватэру. Такая арганізацыя школы, па-нашаму, ня зусім у згодзе з засадамі пэдагогікі і так моднымі цяпер прынцыпамі грамадзкага ўзгадаваньня.

**Вучыцель.**



# На дапамогу моладзі!

Сяньня агулам на беларускай ніве, а тым больш на вясковых палосах балюча адчуваецца нястача сваей інтэлігэнцыі. Злажыліся на гэта розныя ўмовы: катастрофальны стан беларускага школьніцтва, адсутнасьць бел. культурна-асьветных арганізацыяў і ў значнай меры абядненьне самога сялянства.

Тыя досыць лічныя кадры інтэлігэнцыі, якія мы мелі перш, шмат парадзелі, а павольны даплыў новых сіл, далёка ня можа ня толькі заспакоіць сяньняшніх патрэб, але нават запоўніць мяйсцы тых, якія засталіся вырванымі і часам і абставінамі.

Тым больш, што нават гэты павольны даплыў новых сіл сустракае на сваей дарозе розныя перашкоды, перадусім характару матэрыяльнага. Толькі лічаныя адзінкі, выйшаўшы з пачаткавых школ, мелі магчымасьць вучыцца далей. Некаторыя за нястачай сродкаў мусілі варочацца з паўдарогі, пакідаць далейшую адукацыю. Найбольш гэта трагічна выступае ў школьніцтве сярэднім і вышэйшым. Сяньня, ледзь не ў кожнай вёсцы можам спаткаць *быўшых* гімназістаў і студэнтаў. Працэнт як адных так і другіх стала павялічваецца. І таму сяньня мо' як ніколі перад усім сьвядомым грамадзянствам стаіць заданьне: *устрымаць гэту паваротную хвалю нашай моладзі з сярэдніх і вышэйшых школ, даць ім магчымасьць вучыцца, акрэпнуць, стаць на ногі!*

Справа ня новая, Няраз аб ей забірала голас наша грамадзянства. Другая рэч, што шмат хто гэтага пытаньня не даацэньваў, і таму яно не будзіла таго рэха якраз на мяйсцох, на вёсцы, якая беспасярэдня гэтым зацікаўлена.

Якія формы мусіць прыняць гэта дапамога беларускай вучнёўскай моладзі і студэнству гэта мусяць вырашыць беларускія арганізацыі і ўсё сьведамае грамадзянства, папулярызуючы отчытамі, прэсай, «месяцам студэнта»..

Але трэба ўжо прыступіць!

Значэньне вырашэньня гэтага пытаньня ясна кожнаму.

Гэта ня толькі створыць умовы росту кадраў нашай інтэлігэнцыі, гэта паслужыць запарукай цясьнейшай сувязі інтэлігэнцыі з народам, з якога яна выйшла і будзе выходзіць, — з народам, з грамадзянствам, якое сваей ахвярнасьцю дасьць ёй умовы больш інтэнсыўнай працы на родных загонах.

**Максім Танк.**

МАКСІМ ТАНК

* * *

Думаў сяньня прайду сабе так,
як другіх ходзіць сотні людзей,
каб ня чуць толькі брэху сабак
хоць адзін у жыцьці маім дзень.

Я забыўся, што вочы ў мяне
не згубілі яшчэ сваю сінь
і што плечы, і рукі мае
ад плуга, тапара і касы;

што пад сьмеху майго перазвон
нават цяжка сьмяяцца, скакаць, —
толькі сыпацца шыбам вакон
і слупам ліхтары калыхаць...

І таму сярод вуліц крывых
ціха вечар вясны не прайшоў, —
бо чупрынай сем зор залатых
на далоні зсінеўшыя зьмёў.

1.IX.37 г.

## СКІНУ З ПЛЕЧ ШЫРОКІХ.

Скіну з плеч шырокіх
рызманы пад лаву,
закашу за локаць
зрэбныя рукавы.

На адходзе вёсцы
пакланюся нізка,
на мяжы — бярозцы,
што была калыскай.

І калі вячэраць
можа не вярнуся,
пра маю дарогу
вам раскажуць гусі.

Да зары, да сонца
ад крывой асіны
я далей вам сьцежку
пакажу чупрынай.

Вы паклічце моладзь,
ўсіх блізкіх, знаёмых,
цымбаліста Юрку,
скрыпача Сымона.

Каб ня цёрлі вочаў
рызманом сярмягай,
напаіце струны
весялухай-брагай...

Але мо' вярнуся —
прынясу гасьцінца;
да паўночы познай
будзем весяліцца.

І стагі саломы
вызараць пад неба,
хай рашчэша хмары
пятушыны грэбень.

І пойдзем у скокі
да агнёў заранкі:
будуць нашы ногі
выкрасаць маланкі.

Будуць нашы струны
рвацца ад пацехі,
хлебам пахнуць гумны
і сьмяяцца стрэхі.

4.VII.37 г.



П. З.

*З цыклю „Шум сосен"*

* * *

Ты і я — на возе.
Араматы сена.
Вечар на дарозе
пыл румянку сее
запаху туман.
І цьвіце курган
кветкай сосен пышнай
ў воблачкі прыбран.
Зьнемаглася, сьніш ты?
Па раўніне гладкай
шырыні нябёс
месяц-серп украдкай
хмарак жне пакос.
Востраколам бор
дакрануўся зор,
думай чорнай сьніць,
дыхае ў прастор.
Ах устань, ня сьпі!
Стужкаю ружовай
ноч зара вітае,
кожным вевам новым
косы расплятае.
Грушы ціхі сум —
цень пяшчаных дум
сэрцу б'ецца весткай
аб сірочым дню.
Ты ня сьпіш? Прыгледзься!
Ў змучаныя грудзі
лубінам дыхні.
Канюшынным гудам
выснуй дум вянкі!
Зашумі заліся
бярозкай густалістай.
У гэтай далі сіняй,
цёплай песьняй пырсьні
па сваей краіне!

Вільня 1936 г.



# Беларускія работнікі ў Варшаве.

*(Пісьмо трэцяе).*

Дзень пагодны. Душна як у мяшку. Сонца сыпле гарачыя праменьні. Ціхі ветрык, шукаючы вольнай дарогі, дарэмна прабіваўся сярод густых праменьняў сонца. Зьбліжаўся поўдзень, калі я разпачаў зьведваньне беларусаў-работнікаў на ровары пры іх штодзеннай працы. Перш-наперш зьвярнуўся ў напрамку Віслы, дзе заўзята гарыць праца, пры выдабываньні пяску. Там між іншымі працуюць і беларускія работнікі. Ня споўна паўгадзіны, як ужо быў на мейсцы, дзе вялікая праца. Работнікі, як мурашкі, перапоўніўшы бераг Віслы, рухаліся памалу. На іхніх тварах, спаленых жарам сонца, ручаямі сплываў гарачы пот.

**Вісла.**



На ілюстрацыі бачым самаход, на якім возяць пясок. Далей машына— землячэрпалка, якая замяняла бастуючых. У далі каля мосту чаўны з работнікамі.

Тут я спаткаў найпрыхільнейшага мне работніка-беларуса з Браслаўшчыны, каторы зрабіў гадзінны перарыў працы, каб пагутарыць. Я засыпаў яго пытаньнямі:

— Як жывецца? Як праца?

— Жывецца як ведама, дзень да вечара — адказвае. — праца, як бачыце, у гэтай сьпякоце ня лёгкая.

— Але пэўна зарабляеце добра?

— Ды дзе там. Зарабляем больш-менш 5 зал. у дзень. Але вылічыўшы каля 5-ці месяцаў зімовага перарыву, дні непагоды і сьвятаў — дык нам і 3 зал. не выпадае. А жыць трэба з жонкаю і дзяцьмі. Нават на трамвай не астаецца, хаджу пеша, хаця жыву на канцы места, за 5 кілямэтраў ад працы, а ўсё каб за памешканьне плаціць таньней, якое каштуе і так дорага, бо аж 20 зал. у месяц. Калі да гэтага дадаць сьвятло, апал, вопратку й іншыя расходы, дык ня толькі нічога не застанецца на «чорны дзень», але нават няхапае на некаторыя патрэбы. Не гаворачы ўжо аб выдатках культурнаасьветных, на каторыя нічога не астаецца. Каб паправіць жыцьцё,

мы работнікі вісьляныя забаставалі і пакінулі працу з жаданьнем падвыжкі заробкаў. Забастоўка прадоўжылася да 3-ох тыдняў. Нашы працадаўцы ў той час выдаставалі пясок машынай. Мы не маглі ўтрымацца і, змушаныя цяжкім жыцьцём, вярнуліся да працы. Нас не хацелі прыняць, ня толькі на лепшых умовах, але нават на старых. Шмат работнікаў выкінулі.,.

— А колькі гадзін працуеце ў дзень?

— Болей 10-ці, у зьвязку з тым, што праца лічыцца ад ліку мэтраў выдабытага пяску.

— А даўно жывецё у Варшаве і тут працуеце:

— Ужо мінае 10 гадоў як з дому. Тут працую каля 5-ці гадоў; перш працаваў на работах публічных і шмат часу быў безработным...

— А ці хацелі-б жыць дома, або паехаць адведаць сваю старонку?

— А як-жа! Птушкай паляцеў-бы. Але дома зямлі ня маю, а на вёсцы работы няма, — там трэба жыць толькі з зямлі. Адведаць радзіму ня маю грошаў, хаця сэрца рвецца. як птушка ў вырай.

Час мінаў. Сябра мой, як і што дня, схіліўся над лапатай і пачаў сваю мазольную працу.

Я паехаў далей...

**Фабіян Вайцілёнак**



# „NA WILEŃSKĄ NUTĘ“.

Пад такім назовам у нядзелю 29 жніўня была надавана аўдыцыя з Вільні з перадачай на ўсе польскія радыё-станцыі.

Жывучы на чўжыне далёка ад сваей роднай стыхіі, ловіш на хвалях этэру гэтыя „нуты“. Хочацца вычуць душу свайго краю, такую сьпеўную і багатую народнымі талентамі. Хочацца каб было паказана Народам ня толькі тут у Польшчы, але і далёка за яе межамі, *праўдзівае хараство* нашага народнага генія, каб усякае такое культурнае пачынаньне выходзіла ад сьвежых і здаровых крыніцаў народных і ўлівалася ў шырокае рэчышча агульна-людзкай культуры. Якое-ж вялікае разчараваньне спаткала, слухаючы гэтую аўдыцыю. Уступам да „нуты“ была самая ардынарная музыка нейкага маршу ды вальса „Wilno się bawi“. Далей ішлі песьні і танцы „народныя“. З танцаў найбольшую ўвагу на сябе зьвярнулі: „Аляксандра“ (4) і „Алімпія“ (9). Трэба прызнаць за аўтарамі гэтай перадачы поўны брак пачуцьця народнасьці і нават сантымэнту да самай Вільні. Яны відаць думалі зьдзівіць Эўропу такім адкрыцьцём. Але можам пацешыць іх: ніколі народ наш ня меў такіх танцаў, бо для першага выкарыстана мэлёдыя даваеннага расейска-мяшчанскага раманса пра „чорную шаль“, а для другога калядныя мэлёдыі.

Усе танцы ў выкананьні аркестры мандаліністаў „Каскада“ перапляталіся з сьпевам нейкіх салістаў і хору. Сярод песень была наша валачобная „Вечар добры паненачка“ з польскім да яе тэкстам. Чаму Вялікодная песьня перанесена на восень — сакрэт радыё. На „wileńską nutę“ можна было запяяць мэлёдыі болей характэрныя

і адпаведныя да сэзону, як жніва, дажынкі, аўсянае жніва, восень і г. д. Але для гэтага трэба было-б карыстацца агульна-знанымі беларускімі песьнямі. Радыё шагнула ў гэтай аўдыцыі значна далей, як у прасторы, так і ў часе. Перад апошняя песьня „Hula-la, hula-la gąski moje“ далікатна кажучы па-просту запазычана... зноў-жа з расейскае „Аллаверды“. „Wileńska nuta“ стала такая даўгая, што ўжо дасягнула нават „времён покоренія Кавказа“, тых „времен“, калі заместа „Hula-la gąski moje“, быў прыпеў.

Плачце красавицы в горном ауле
Правьте поминки по нас!..

Закончыла перадачу „Polka Sołtaniszska“ з прыпеўкамі пра жонку, якая „сечку ела, ваду піла“. Запевалы, што мелі рэпрэзэнтаваць Віленшчыну на ўсю Польшчу з гэтым ненатуральным і ў большасьці не народным рэпэртуарам усё зьбіваліся на трагікамічны псэўданародны лад.

Віленскае радыё ў сваіх аўдыцыях старанна абмінае беларускі народ і таму дапускае ад імя Віленшчыны такія экзотычныя нявысокай мастацкай вартасьці перадачы.

GUARNERY.

Варшава. 30.VIII.37 г.

---

# Наша хроніка.

⁂ **М. Забэйда-Суміцкі** у канцы жніўня прыбыў у Вільню. Апошнімі часамі ён выступаў у Рызе і Таліне, дзе побач з опэрнымі арыямі польскімі, італьянскімі пяяў такжа і беларускія песьні, якія карысталіся шумным пасьпехам у публікі. Латвійская прэса дае вельмі прыхільныя адзывы аб канцэртах нашага тэнара. J. Zalitis піша, што З.-Суміцкі выказаў багатую музычную інтуіцыю; у кожнай песьні і арыі яго натхнёны сьпеў зьвінеў чыста, з артыстычнага боку быў вычарпаны поўнасьцю.

Посьле Вільні М. З.-Суміцкі мае замер выехаць у сваю родную вёску Шэйпякі каля Ружаны, Косаўскага павету на адпачынак; там вясковая моладзь ужо навучылася з грамафонных плітак беларускія песьні з рэпэртуару нашага артыста.

⁂ **Беларускі Нацыянальны Камітэт** 16 жніўня злажыў мэмарыял Польскаму Ураду у справе адчыненьня Беларускага Ліцэю. Прымаючы пад увагу тое, што ўжо ўсе меншасьці ў Польшчы — украінцы, немцы, жыды, літоўцы і расейцы атрымалі ліцэі,— наша рэдакцыя ўважае неабходным вярнуцца да гэтага пытаньня ў наступных нумарох журнала.

⁂ **Канфіскаты.** У жніўні м-цы Гарадзкое Староства канфіскавала № 12 „Самапомачы“ за артыкул „Абое рабое“ аб коопэрацыі і № 8 „Шляху моладзі“ за артыкул „З блуднага кола польска-беларускіх адносінаў“ (з прычыны зьезду OZN у Вільні).

**„З пад стрэх саламяных“** зборнік поэзіі М. Машары таксама канфіскаваны.

⁂ **Выйшаў „Снапок“ № 4** — царкоўны, культурна-асьветны журнал для дзяцей з ілюстрацыямі (16 старонак).

Падпісная плата: на год 1 зл. на ½ — 50 гр. з перасылкай. Цана асобнага нумару 10 гр.

Адрэс рэд. Варшава 4, вул. Парыска 27.

У справах рэдакцыйнага характару зварочвацца да гр. Сяргея Паўловіча па адрэсу: Вільня, вул. Папоўская д. 9, кв. 4.

⁂ **Беларускі адрыўны календар** на 1938 год выйшаў з друку. У хуткім часе мае выйсьці і календар-кніжка.

⁂ **Да чытачоў.** Дзеля больш шырокага і адпавядаючага сапраўднасьці інфармаваньня беларускага грамадзянства, просім нашых чытачоў напісаць дакладна аб школах, быўшых беларускіх і ўтраквістычных (двух моўных), якія яшчэ недзе захаваліся і аб тым, якое мейсца займае беларуская мова ў гэтых школах.

Апрача таго прысылайце пісьма аб тых зьменах, якія адбываюцца на царкоўным пагосьце, аб пропаведзях і выкладаньні рэлігіі ў школах праваслаўным дзецям.

Бяручы пад увагу важнасьць гэтага пытаньня і нястачу спэцыяльнай беларускай царкоўнай прэсы, якая-б магла заняцца яго вырашэньнем і стаць у абарону беларускасьці за царкоўнай аградай, — наша рэдакцыя па меры магчымасьці дасьць мейсца на старонках «Бел. Лет.» матэрыялам і артыкулам з царкоўна-грамадзкага жыцьця, належна асьвятляючым парушаную справу.

⁂ **Кампазытар К. Галкоўскі** напісаў 20 беларускіх народных песень для солёвага сьпеву з акампанімэнтам раяля. Гэтыя песьні становяць вялізарную вартасьць у нашай музычна-вокальнай літаратуры. Каждая песьня — гэта закончаны музычны абразок, невялічкая паэма, якая адным акампанімэнтам расказвае тое, што зьмяшчае ў сабе паэзія тэкстаў. У нумары 6—7 „Б. Л.“ мы падавалі пералічэньне шасьці першых песень, цяпер падаём наступныя: 7. „Распусьцілася калінка“, з м. Мядзёл, Пастаўскага павету, 8. „Ой, маці, маці, дварак у хаці“, з в. Кацёлкі, Пружанскага павету, 9. „Пасеяла лешку лёну“ — валачобная, з Вялікіх Берастaвічан на Горадзеншчыне, 10. „Знаці чашнічка“ — вясельная, 11. „Там на ролі на ральлі“, 12. „Пайшла дзеўка ў лес за грыбамі“, 13. „Ой плылі гусёлкі“ 14. „Ой ў полі дуб, дуб“ чатыры — 10—13 з в. Шакуны, а 14 з в. Ялова Пружанскага павету, 15. „Ці ня дудка мая“, 16. „Чаму-ж мне ня пець“, 17. „Як пагнала стара баба куранятак пасьці“, з в. Гаішча Маладэчанскага пав., 18. „У цёмцым лесе мур мураваны“, з в. Мель, Вялейскага павету, 19. „Чырвоная каліналька“ з в. Шакуны, Пружанскага пав. і 20. „Ляцела зязюля праз бор кукуючы“ з Лідчыны. За выняткам 15 і 16-й усе мэлёдыі і тэксты ўзяты кампазытарам з запісаў Р. Шырмы.

## Паштовая скрынка.

Новік Ганна. Некаторыя вершы з папраўкамі друкуем. Чакаем карэспандэнцыі з жыцьця вашай вёскі. Бяручы пад увагу Вашы сяньняшнія цяжкія матэрыяльныя абставіны, — часапіс і далей рэгулярна будзе высылацца на ваш адрас.

Нашкевіч С., Мірскі М., Агейчык Г., — просьбу спаўняем.

ЛУЖКІ. Адзін з чытачоў прыслаў грошы на кніжкі і не падаў свайго прозьвішча і адрасу. Таму ня можам выслаць. Чакаем дакладных вестак.

# РАСА ЖЫТА РАСІЛА.

*(Бяседная, з в. Страшава, Ваўкавыскага пав.).*

Moderato — Гарм. К. ГАЛКОЎСКАГА

*f*

Ра – са жы – та ра – сі – ла, жонка мужа пра сі – ла:
На – шы ко – ні – кі іржаць, я – ны ес-тач – кі ха-цяць

Ой, Ой

*Канец*

Йдзем, му – жу, да до – - – му, йдзем, му – жу, да до – му!
Ой, Ой, Ой

*p*

— А на што нам ко – ні – кі, пе – рад на – мі сто – лі – кі, —







Раса жыта расіла,
Жана мужа прасіла:
— «Йдзем, мужу, да дому (2)
Нашы конікі іржаць,
Яны естачкі хацяць —
Йдзем, мужу, да дому» (2)
— «А на што нам конікі,
Перад намі столікі,—
Яешчэ посядземо,
Людзей паглядземо»!

Раса жыта расіла,
Жана мужа прасіла:
— «Йдзем, мужу, да дому (2)
Нашы кароўкі мычаць,
Яны естачкі хацяць —
Йдзем, мужу, да дому» (2)
— «А на што нам караўкі —
Перад намі талеркі
Яшчэ пасядземо,
Людзей паглядземо»!

Раса жыта расіла,
Жана мужа прасіла:
— «Йдзем, мужу, да дому, (2)
Нашы куркі сакацяць,
Яны естачкі хацяць —
Йдзем, мужу, да дому» (2)
— «А на што нам курачкі, —
Перад намі вілачкі
Яшчэ пасядземо,
Людзей паглядземо»!

Раса жыта расіла,
Жана мужа прасіла:
— «Йдзем, мужу, да дому, (2)
Нашы сьвіначкі крычаць.
Яны естачкі хацяць,—
Йдзем, мужу, да даму»!
— «А на што нам сьвіначкі,
Перад намі пляшачкі,
Яшчэ пасядземо,
Людзей паглядземо»!

Раса жыта расіла,
Жана мужа прасіла:
— «Йдзем, мужу, да дому, (2)
Нашы авечкі крычаць,
Яны естачкі хацяць, —
Йдзем, мужу, да дому»! (2)
— «А на што нам авечкі,
Перад намі чарачкі,
Яшчэ пасядземо,
Людзей паглядземо»!

Раса жыта расіла,
Жана мужа прасіла:
— «Йдзем. мужу, да дому, (2)
Нашы коцікі крычаць,
Яны естачкі хацяць, —
Йдзем, мужу, да дому» (2)
— «А на што нам коцікі,
А мы ў людзей госьцікі, —
Яшчэ пасядземо,
Людзей паглядземо»!

Раса жыта расіла,
Жана мужа прасіла:
—«Йдзем, мужу, да дому» (2)